

*Помнік ахвярам тэрору з вёскі Гаркавічы ў Сакольскім павеце.*


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 33 (859) ГОД XVII БЕЛАСТОК 13 ЖНІЎНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.





Была сонечная нядзеля 23 ліпеня 1972 года. У Гаркавічах на Сакольшчыне шматлюдны натоўп сабраўся ля свежаадмаляванай і адрамантаванай вясковай хаты, якая ад гэтага дня сталася месцам культурнага адпачынку жыхароў вёскі і адначасова Ізбой памяці аб іх аднавяскоўцу Сяргею Прытыцкім.

Старэйшыя гаркавічане памятаюць яго яшчэ даволі добра, а малодшыя — чулі пра яго ад сваіх бацькоў.

Сяргей Прытыцкі нарадзіўся ў Гаркавічах 19 студзеня 1913 года і ўжо 17-гадовым юнакам звязаўся з камуністычным падполлем, стаў членам і актывістам Камуністычнага Саюза моладзі Заходняй Беларусі. Праваднікам яго ў гэтую небяспечную краіну быў родны брат Аляксандр. Сяргей аказаўся вельмі здольным і адважным канспіратарам. Дык партыя даручала яму ўсё больш адказныя заданні ў падпольнай дзейнасці. Узначальваў ён ячэйкі КПЗБ у крынкаўскім раёне, а пасля кіраваў партыйнай дзейнасцю ў цэлай гродзенскай акрузе, дзейнічаў і ў іншых раёнах Заходняй Беларусі.



*Вянкі на помнік ахвярам гітлераўскага тэрору з вёскі Гаркавічы. Першы вянок ад Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.*

Сяргей Прытыцкі стаў народным героем, пра якога расказваюць у вершах, кніжках і кінафільмах. Ад вясковага хлапчука з беднай хаты пад саламянай страхой завандраваў ён на пасаду Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і аднаго з намеснікаў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Мікрафон далёка разносіць словы I сакратара павятовага камітэта партыі ў Сакольцы, тав. Генрыка Краўца, які гаворыць пра слаўны жыццёвы шлях Сяргея Прытыцкага. Побач яго стаяць запрошаныя госці з Варшавы і Мінска, з Беластока і Гродна.

Сярод гасцей знаходзіцца Таццяна Прытыцкая, жонка Сяргея і яго дзве сястры Люба Матусевіч і Ірэна Царук.

Сяргей Прытыцкі памёр 13 чэрвеня 1971 года. Ізба памяці ў Гаркавічах, якую абсталявалі работнікі Беластоцкага музея рэвалюцыйнага руху, на мове дакументаў і фотаздымкаў расказвае пра яго жыццё і барацьбу.

Адзін з дакументаў гаворыць, што 8 сакавіка 1942 г. гітлераўцы расстралялі ў Гаркавічах 9 спакойных сялян, сярод якіх было аж трое Прытыцкіх: родны брат Сяргея — Аляксандр і дваюрадныя яго браты — Лявон і Іван.

Пра іх пакутніцкую смерць напамінае помнік, які ў той жа дзень быў адкрыты на месцы іх расстрэлу.

Сакратар партыйнай арганізацыі ў Гаркавічах Яўген Несцяровіч гаварыў мне:

— Сяргей Прытыцкі адведаў нашу вёску апошні раз нейкіх 10 год таму на-

Працяг на стар. 4




# З КЛОПАТАМ ПРА АСВЕТУ І БГКТ

Васьмікласная пачатковая школа ў Баброўніках Беластоцкага павету прайшла капітальны рамонт і выглядае, як цацка. Прасторны калідор свеціць старанна адмаляванымі столлю і панелямі, а ў класах кожная аконная рама, кожны вучнёўскі столік, лаўка і ўвесь абсталюнак даведзены да бляску.

Хоць была палавіна ліпеня, але дырэктар школы Янка Федзюкевіч разам са сваёй жонкай, таксама настаўніцай, усё яшчэ клапаціліся пры парадкаванні школы. Яны адмовіліся ад некалькіх тыдняў свайго летняга адпачынку, каб толькі ў верасні вяртаючуюся з канікул моладзь школа магла павітаць парадкам і элегантнасцю.

Янка Федзюкевіч з'яўляецца вядомым у Беластоцкім павеце грамадскім актывістам, нязменным ад 1965 года сакратаром першічнай партыйнай арганізацыі ПАРП у Баброўніках. Ён жа актыўны дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства і дэлегат на VII з'езд БГКТ.

Наша размова з Я. Федзюкевічам канцэнтравалася вакол праблемаў дзейнасці БГКТ у сучасны момант і ў будучых гадах.

«Ніва»: — На пачатак можа крыху гісторыі. Як у Баброўніках быў заснаваны гурток БГКТ?



— Людзі ў сучасным сяле патрабуюць не толькі культурных мерапрыемстваў «прывазных» звонку, але і самі па меры сваіх сіл і дараванняў хочуць удзельнічаць у культурным жыцці. Гэтаму якраз і адпавядае культурна-асветная дзейнасць БГКТ. Вось хоць бы і ў нашых Баброўніках. Некалькі разоў наведала нашу вёску бэгэкатоўская кінаперасоўка з савецкімі фільмамі, якія ў нашым асяроддзі карыстаюцца асаблівай папулярнасцю, затым прыехала «Лявоніха» з беларускай песняй і гумарам. Гэта згуртавала людзей і зацікавіла іх грамадскай і культурнай дзейнасцю. Гадоў два таму назад прыехала да нас В. Філіпюк — інструктар павятовага аддзела БГКТ у Беластоку і адразу паўстаў — хоць і невялікі, бо моладзі ў нас надта ж мала — гуртоk нашага таварыства. Старшынство ў ім члены даверылі настаўніцы нашай школы Марыі Кузьміч, абсальвентцы беларускага класа Педагагічнага ліцэя ў Бельску. Сталі рыхтавацца да конкурсаў на беларускую песню, і ў бягучым годзе наша народная спявачка Зоф'я Цацэрка заняла адно з першых месц на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 72». Цяпер жа будзем намагацца, каб арганізаваць тут у нас беларускі народны хор. Словам, Баброўнікі ўзрушыла наша беларуская народная песня.

«Ніва»: — Ці знаходзіце вы ў дзейнасці БГКТ выхаваўчыя аспекты?

— Так, даволі значныя, хоць, мне здаецца, яшчэ не поўнасцю выкарыста-

Працяг на стар. 4

# ДРУГАЯ КЕРАМІЧНАЯ

Зараз ідзе пабудова другой керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове Гайнаўскага павету. Новая фабрыка будзе выпускаць больш 61 мільёнаў штук высакаякаснай цэглы ў год. Яе сучаснае абсталяванне дазволіць на ўвядзенне новых тэхналагічных працэсаў пры прадукцыі керамічных вырабаў і будзе спрыяць атрыманню новых асартыментаў цэглы і іншых керамічных вырабаў.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



*Керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове. Злева новая керамічная фабрыка ў пабудове.*

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### КАНФЕРЭНЦЫЯ РЭЛІГІЙНЫХ ДЗЕЯЧОЎ

У Токіо закончыла работу Сусветная канферэнцыя рэлігійных дзеячоў за мір і справядлівасць у Індакітаі. Каля 400 прадстаўнікоў з 13 краін свету, у тым ліку з Савецкага Саюза, ЗША, ДРВ, Манголіі на працягу двух дзён абмяркоўвалі задачы і ролю рэлігійных арганізацый ва ўстанаўленні міру ў Індакітаі. Удзельнікі канферэнцыі прынялі зварот, у якім заклікаюць грамадскасць да падтрымкі і салідарнасці з барацьбой народаў Індакітая. Яны абвінавацілі ЗША ў працягу агрэсіі ў Індакітаі, характарызуючы дзеянні ЗША як «выклік не толькі народам Індакітая, але і сумленню, пачуццю годнасці і асноўным правам чалавека».

### ЗАЯВА БХУТА

Прэзідэнт Пакістана З. А. Бхута назваў індыйска-пакістанскае пагадненне, падпісанае ў Сімле, «адпраўным пунктам» у адносінах паміж абедзвюма краінамі. Выступаючы ў Пакістанскім інстытуце міжнародных праблем, прэзідэнт заявіў, што пагадненне ў Сімле адпавядае нацыянальным інтарэсам Пакістана і што яго адабрае большасць пакістанскага народа.

### АБУРЭННЕ

Усеагульнае абурэнне шэрагу абшчын у раёне Гепінгена выклікалі планы камандавання амерыканскай арміі заняць у гэтым раёне 160 гектараў пад ваенны палігон.

Звыш 5 тысяч жыхароў Гепінгена, Эйслінгена і Атэйбаха прынялі ўдзел у дэманстрацыі пратэсту, якая завяршылася вялікім мітынгам.

Дэманстрацыя адбылася па ініцыятыве арганізацыі «Грамадзянская акцыя», у склад якой увайшлі прадстаўнікі самых розных слаёў насельніцтва. Яна была падтрымана Германскай камуністычнай партыяй.

### РАБОЧАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Кансерватыўны ўрад Англіі пацярпеў паражэнне ў сутычцы з рабочым класам краіны. Так званы «прамысловы трыбунал» прыняў вымушанае рашэнне вызваліць пецярых лонданскіх докераў, кінутых у турму на падставе антыпрафсаюзнага закона.

Рашэнне трыбунала вынесена ўсяго толькі праз некалькі гадзін пасля савета брытанскага кангрэсу трэд-юніёнаў, які большасцю галасоў вырашыў правесці ў падтрымку докераў усеагульную забастоўку — першую на Брытанскіх астравах пасля 1926 года.

### ЯШЧЭ АДНА СМЕРЦЬ

У клініцы Нагасакскага ўніверсітэта памерла Міцio Тамінота. Ёй было ўсяго 23 гады. Дзяўчына нарадзілася ў Нагасакі праз чатыры гады пасля таго, як на горад была скінута атамная бомба, сведкам якой быў яе бацька. Усе гэтыя гады яна адчувала сябе здаровай. Але ў канцы 1971 года яе прывезлі ў клініку гарадскога ўніверсітэта з сімптомамі хваробы, якая бывае толькі ў тых, хто перажыў ядзерны выбух.



## БССР

### СПАБОРНІЦТВА

Цэнтральны Камітэт КПБ і Савет Міністраў БССР разгледзелі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва за павелічэнне вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў жывёлагадоўлі, паляпшэнне іх якасных паказчыкаў за першае паўгоддзе 1972 года. Пераможцамі ў сацыялістычным спаборніцтве за павелічэнне вытворчасці і продажу дзяржаве малака, паляпшэнне яго якасці прызнаны Мінская і Брэсцкая вобласці.

### ЗВЫШ ПЛАНА

На палях калгаса «Шлях да камунізму» Гродзенскага раёна працуе 15 камбайнаў. Калгаснікі адразу з поля пастаўляюць збожжа ў дзяржаўныя засекі. Прадалі яны ўжо 400 тон, хаця план мелі на звыш 100 тон меншы.

### КРУГЛЫЯ СУТКІ

Кругласутачная работа арганізавана на Клецкім збожжапрыёмным пункце, які кожны дзень прымае 450—500 тон збожжа. Калгасы «Савецкая Беларусь», імя Ульянава, «Кастрычнік», «Авангард» і іншыя завяршылі ўжо продаж жыта і пшаніцы.

### ЛЁН

Многія калгасныя гаспадаркі ў Жыткавіцкім раёне закончылі ўжо цerабленне льну, цяпер малоцяць яго і рассцілаюць салому пад цёплыя жнівеньскія росы. Асабліва добра арганізавана гэта работа ў калгасе «Дзень ураджаю».

### У ДЗІЦЯЧЫМ ЛАГЕРЫ

Дзеці рабочых Гродзенскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання праводзяць канікулы ў лагеры «Нёман». Яны ўдзельнічаюць у дзіцячай гульні «Зарніца», збіраюць лекавыя травы, ездзяць на экскурсіі ў Брэст, Хатынь і іншыя месцы БССР.

### ЗВАННЕ НАРОДНЫХ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР пісьменнікам Івану Мележу і Івану Шамякіну за вялікія дасягненні ў развіцці беларускай савецкай літаратуры прысвоена ганаровае званне Народных пісьменнікаў Беларускай ССР.

З гэтай нагоды прыпомнім, што І. Шамякін з'яўляецца аўтарам шырокавядомых у Беларусі і за яе межамі раманаў «Глыбокая плынь», «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні».

Пяру І. Мележа належаць, між іншым, такія слаўныя кніжкі, як «Мінскі напрамак», «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

### АРХІЎНЫЯ ЗНАХОДКІ

У асабістым архіве памершага пісьменніка і перакладчыка мастацкай літаратуры Сяргея Гарадзецкага былі нядаўна выяўлены новыя дакументы, якія сведчаць аб яго творчай садружнасці і асабістай дружбе з класікамі беларускай літаратуры Янкам Купалам і Якубам Коласам. Сярод папераў Гарадзецкага, знойдзены чатыры пісьмы Я. Купалы і аж 80 пісем, рукапісы артыкулаў і вершаў Я. Коласа, шматлікія фатаграфіі іх абодвух з уласнаручнымі даравальнымі подпісамі. (вр)




## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

4 жніўня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім быў разгледжаны праект пастановы аб палітычнай каардынацыі адносін з замежнымі краінамі. Праект пастановы ўпаўнаважыў міністра замежных спраў да каардынацыі гэтых адносін і развіцця кантактаў з замежнымі краінамі. У другім пункце пасяджэння Прэзідыум урада прыняў рашэнне адносна паляпшэння працы мясцовай прамысловасці і спулдзельчасці. У чарговым пункце пасяджэння Прэзідыум урада зацвердзіў біланс збожжавых культур і пашаў на 1972—73 гады, а таксама знаёміўся з арганізацыйнымі справамі сёлетняга адпачынку.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з генеральным сакратаром ЦК КПЧ Г. Гусаком. У час сустрэчы Э. Герэк і Г. Гусак знаёміліся з палітычнай і гаспадарчай сітуацыяй у двух краінах, а таксама абмеркавалі найважнейшыя справы, звязаныя з далейшым развіццём польска-чэхаславацкіх адносін.

### СУСТРЭЧА П. ЯРАШЭВІЧА

2 жніўня старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч правёў сустрэчу з сакратаром гандлю ЗША П. Г. Петэрсонам. На сустрэчы былі абмеркаваны справы гандлёвага абмену абедзвюх дзяржаў і перспектывы далейшага іх развіцця.

### 28-АЯ ГАДАВІНА ВАРШАЎСКАГА ПАЎСТАННЯ

1 жніўня з нагоды 28-ай гадавіны Варшаўскага паўстання жыхары нашай сталіцы ўшанавалі памяць загінуўшых салдатаў, паўстанцаў і ахвяраў гітлераўскага тэрору. Мерапрыемствы адбыліся ў памятных месцах паўстанчай Варшавы.

### УЗНАГАРОДЫ НАЙЛЕПШЫМ

5 жніўня ва ўстанове Рады Міністраў была ўручана 41 ўзнагарода за дасягненні ў галіне праектаў будаўніцтва і прасторавага планавання.

### СВЯТА «ТРЫБУНЫ ЛЮДУ»

16 і 17 верасня ўпершыню будзе арганізавана свята вядучай партыйнай газеты, органа ЦК ПАРП «Трыбуны Люду». Святкаванне будзе мець характар вялікага народнага фэстыну і будзе адбывацца штогод.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА ЦЭНТРАЛЬНЫХ ДАЖЫНАК

Сёлетнія цэнтральныя дажынкі адбудуцца ў Быдгашчы. Зараз ідзе інтэнсіўная падрыхтоўка да іх.

### НОВЫЯ АЎТОБУСЫ

Згодна з польска-французскім пагадненнем яшчэ ў гэтым годзе будзе распачата ў нашай краіне прадукцыя новых аўтобусаў на французскай ліцэнцыі.

### НОВАЯ ФАБРЫКА МЭБЛІ

2 жніўня распачала прадукцыю новая фабрыка мэблі ў Ласку. Новае прадпрыемства будзе спецыялізавацца ў прадукцыі мэблі для малых кватэр.

### ПЕРАД ПЕРШЫМ ЗВАНКОМ

Сёлета навуку распачне больш 510 тысяч першакласнікаў. Варта адзначыць, што сярод іх 125 тысяч дзяцей прайшло спецыяльную падрыхтоўку ў прадшкольных цэнтрах. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### СА ЖНІЎНАГА ФРОНТУ

Апошнія дажджы значна стрымалі тэмп жніва. Да гэтага часу нельга было касіць машынамі жыта там, дзе яно палягло. А пасля дажджоў найчасцей камбайны наогул не маглі выйсці ў поле, бо гразлі ў размоклай глебе. У індывідуальных гаспадарках жыта амаль скошана, але значная частка яшчэ не звезена. Яшчэ горш выглядае справа са зборам збожжа ў дзяржаўных гаспадарках, дзе галоўная праца выконваецца камбайнамі. Сіноптыкі прадказваюць паляпшэнне пагоды. Усе машыны павінны як найхутчэй выйсці ў поле, дзе гэта толькі магчыма, і працаваць без перапынкаў.

### З ПАСЯДЖЭННЯ ЭКЗЕКУТЫВЫ

4 жніўня адбылося чарговае пасяджэнне экзекутывы ВК партыі ў Беластоку. Ацэньвалася справаздачна - выбарная кампанія ў прафсаюзах, абмяркоўвалася жніўная кампанія, падрыхтоўка пунктаў скупу да прыняцця сельскагаспадарчых прадуктаў сёлетняга ўраджаю і выкананне гаспадарчага плана за першае паўгоддзе гэтага года ў нашым ваяводстве.

### НАРАДА Ў СТАРШЫНІ ПВРН

На днях адбылася ваяводская нарада на тэму падрыхтоўкі да навучальнага года. Вёў нараду старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, прысутнічалі кіраўнік аддзела навукі, асветы і культуры ВК партыі М. Гнатоўскі і намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч.

Куратар Э. Крынскі праінфармаваў прысутных аб ходзе набору кандыдатаў у прафесіянальныя школы. Падкрэсліў, што ёсць яшчэ вольныя месцы ў некаторых прафесіянальных будаўнічых, драўнінных і сельскагаспадарчых школах. Куратар паведаміў таксама аб падрыхтоўцы школьных будынкаў да пачатку заняткаў (рамонты і будаўніцтва новых аб'ектаў), аб плане падвозкі дзяцей у школы і аб падрыхтоўцы кіраўніцтва школ да новых, павялічаных задач.

Кіраўнік аддзела гандлю Прэзідыума ВРН Т. Свідзінскі праінфармаваў аб забеспячэнні рынку неабходнымі таварамі перад пачаткам новага навучальнага года. Паводле запэўненняў гандлёвых установаў, не павінна быць клопату з набыццём асноўных тавараў. Прадстаўнікі будаўніцтва абяцалі прыспешыць рамонты, а некаторыя спазненні ў працы тлумачылі нетэрміновай дастаўкай матэрыялаў.

### ДОБРАЯ ПРАЦА

Нягледзячы на ліпеньскую амаль «балгарскую» гарачыню, на прадпрыемствах Беласточчыны паспяхова выконваюцца і перавыконваюцца прадукцыйныя планы. На Фастаўскім камбінаце абедзве прадзільні далі ў ліпені дадаткова па дзве тоны пражы, а ткальні — дадаткова 92 тыс. метраў тканіны. Замбpоўскі камбінат у ліпені даў дадаткова 2 тоны пражы і 15 тыс. метраў тканіны. Перавыканалі ліпеньскія планы беластоцкая «Плюшоўка», тэкстыльшчыкі фабрыкі імя Сяржана, рабочыя ФПіУ. Дадаткова 150 халадзільнікаў дала ў ліпені на рынак фабрыка з Чорнай Беластоцкай. (яч)




NIEDZIELA 13.VIII.

8.10 Program. 8.15 TV Kurs Rolniczy: „Lato 72". 8.50 „Przypominamy, radzimy". 9.00 „Stawka większa niż życie" — film. 9.50 „Melanezja" (III) — rep. film. („W cztery świata strony"). 10.15 „Banda Asa Kier" — film fab. radz. 11.35 PKF. 11.45 Laureaci VI Festiwalu Zespołów Artystycznych Wojska Polskiego. 12.25 Dziennik. 12.40 „Przemiany". 13.10 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Tabliczka przeziębienia" („Ula i świat"). 13.35 „Muzyka na deptaku". 14.20 „Z dziennika starego trapera" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 14.15 „Piórkiem i węglem". 15.15 „Kalendarz przebojów" — program rozr. TV NRD. 16.05 Teatr TV: M. Pawłowa — „Skrzydła". 16.35 „Generał" — film arch. 17.55 Program filmowy. 18.50 Film muzyczny — premiera miesiąca nr 10: „Motet Axultate Jubilate". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Akcja na letnisku Westmarch" — film ang. odc. I („Wielki napad"). 20.55 „Jeszcze trochę lata" — program rozr. 21.40 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 14.VIII.72

16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 Informacje, Towary, Propozycje. 17.15 „Tysiąc sto nocy" — film dokument. radz. 18.05 Echo stadionu. 18.30 Telewizyjny Kurier Warszawski. 18.50 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Letni Przegląd Teatru Telewizji. 21.35 Publicystyka międzynarodowa. 22.05 Dziennik. 22.20 Tańce polskie na fortepian.

WTOREK 15.VIII.72

10.00 „Anioły z Brodway'u — film fab. USA 11.15 Przerwa. 16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 „Makroregion" — program public. 17.25 Kurier Mazowiecki. 17.45 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przypominamy, radzimy. 20.10 „Anioły z Brodway'u" — film fab. USA. 21.30 „Rodowód serdeczny" — spotkanie z Eugeniuszem Pauksztą. 22.00 Dziennik.

ŚRODA 16.VIII.72

10.00 „Kobieta w bieli" — odc. V — film franc. seryjny. 10.50 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 Teleferie. 18.20 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kobieta w bieli" — odc. V — film franc. seryjny. 20.55 PKF. 21.05 Świat i Polska. 21.35 „Nokturn" — koncert z Festiwalu Chopinowskiego w Dusznikach. 22.15 Dziennik, wiadomości sportowe. 22.35 Wspomnienia olimpijskie — odc. III.

CZWARTEK 17.VIII.72

16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 Oferty. 17.05 Kurier Lubelski. 17.25 Poligon. 17.55 Program filmowy. 18.30 „Przed generalnym szturmem". 19.00 Turystyka i wypoczynek. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przypominamy, radzimy. 20.05 Teatr „Kobra": J. Makarius „Śmierć krąży wokół Diany". 21.35 Refleksje. 22.05 G. Boccacio „Nie doprowadzaj kobiety do ostateczności" („Wieczorny Uniwersytet dla Starszych Panów"). 22.30 Dziennik, wiadomości sportowe. 22.50 Polski Film Dokumentalny — Filmy Festiwalu Krakowskiego.

PIĄTEK 18.VIII.72

10.00 „Mężczyźni w delegacji" — film fab. bułgarski. 11.35 „Żarłacze — ludojady" — film dokument. („Człowiek i morze"). 12.00 Przerwa. 16.40 Program. 16.45 Dziennik. 16.55 Teleferie. 18.00 Międzynarodowe Mistrzostwa Polski w lekkiej atletyce. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Żarłacze — ludojady" — film dokument. („Człowiek i morze"). 20.30 Kraj. 21.10 Teatr Telewizji: Beaumarchais „Wesele Figara". 22.35 Dziennik, wiadomości sportowe.

SOBOTA 19.VIII.72

11.00 „Heroina" — film fab. NRD. 12.25 Przerwa. 16.20 Program. 16.25 Program I proponuje. 16.45 Dziennik. 16.55 Nie tylko dla pań. 17.15 „Sylwetka dr Kadyi" — rep. film. 17.45 Międzynarodowe Mistrzostwa Polski w lekkiej atletyce. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Na morzach i oceanach" („Melodie Wielkiego Ekranu"). 21.15 Dziennik, wiadomości sportowe. 21.40 „W piękny, letni poranek" — film fab. franc.




PIĄTEK, 11 sierpnia

7.35 Nowiny. 7.45 Program dla uczniów. 8.15 „Wyspa Kołdun" — film. 9.20 Robotniczy honor — reportaż. 9.50 Występ „Lawonichi". 10.15 Nowiny. 15.10 Program. 15.15 Reportaż z orszańskiej fabryki. 15.30 Dla dzieci. 16.10 Almanach TV. 16.40 Siedem moich synów. Film. 18.15 „Ziemia". 18.40 Koncert. 19.00 „Czas". 19.30 Teatr miniatur. 20.40 Panorama nowin.

SOBOTA, 12 sierpnia

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.35 Nowiny. 7.45 Śpiewa M. Mordasowa. 8.15 Dla dzieci. 8.45 Dzień sportu. 10.00 Muzyczne czasopismo. 10.50 Przegląd międzynarodowy. 11.05 Szkatułka muzyczna. 11.20 O współzawodnictwo budowlanych. 12.15 Filmy rysunkowe. 12.45 Siedem dni orszańskiej fabryki. 13.00 „Udar" film. 14.30 Panorama międzynarodowa. 15.00 Sport. 17.00 Koncert. 17.45 Spektakl „Platon Kreczet". 19.00 „Czas". 19.30 Dalszy ciąg spektaklu. 20.30 Śpiewa Z. Winogradowa.

NIEDZIELA, 13 sierpnia

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.20 Nowiny. 7.30 Dla młodzieży. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dzień budowlanych. 9.00 Koncert. 9.45 Klub gry w warcaby. 10.05 Koncert. 10.35 Dla dzieci. 11.00 „Godzina wiejska". 11.55 Nowiny. 12.00 Program dla wojska. 12.30 „Wyszynia" — film. 14.00 Klub kinopodróżników. 15.00 Dla młodzieży szkolnej. 16.35 Siedem dni orszańskiej fabryki. 16.50 Pierwsze wydanie kolorowego kinoprzeglądu. 17.00 Zboże dla spichrzów. 17.30 „Poznaj siebie" — film. 19.00 „Czas". 19.30 Nowiny. 20.55 O muzyce i muzykantach.

РЭПАРТАЖ З ВЁСКІ ПАЎЛЫ

# СУСЕДЗІ

Жывуць па-суседску: браты Мікалай і Васіль Філіпюкі, Аркадзь Мароз і Ян Аляксеюк. Пра іх сёння некалькі слоў. Чаму? Перш за ўсё таму, што нерэальна было б расказваць пра 135 гаспадароў, якія жывуць у Паўлах (Бельскі павет), якія разам апрацоўваюць 656 гектараў ворнай зямлі і 135 гектараў сенажацяў.



— Шукаў я шчасця па свеце, а знайшоў у роднай вёсцы, — так гаворыць Мікалай Філіпюк.



Аркадзь Мароз — прадстаўнік новага тыпу жыхароў сучаснай вёскі.



Васіль Філіпюк мяркуе, што самы лепшы даход для гаспадара дае цяпер жывёлагадоўля.

Жывуць па-суседску. Васіль Філіпюк з сынамі, з іх жонкамі і дзецьмі ў цаглянай мураванцы, якую за 100 тысяч злотых пабудавалі сабе тры гады таму назад. Яго старэйшы брат — Мікалай Філіпюк, па прафесіі вясковы столяр — застаўся ў драўнянай, але прасторнай, чарапіцай пакрытай хаце, якую размаляваў сабе так жывапісна, што прыцягвае вочы, як магніт жалеза. Дык і я не мог не спыніцца і не палюбавацца гэтым праяўленнем сучаснага вясковага мастацтва.

Трэці з суседзяў, Аркадзь Мароз, даўнейшы ніваўскі знаёмы. А яго сусед, Ян Аляксеюк, зацікавіў мяне сваім цяплічным агародніцтвам.

Дык жывуць яны па-суседску і кожны па-свойму стараецца аблегчыць сваё жыццё-быццё. Калі азіраюся па панадворку Васіля Філіпюка, адразу відаць, што яго ўласнік даўно забыў пра слова: бяда. Усё ў яго абсталявана трывала, грунтоўна, з верай у спакойную, непарушную будучыню.

— Я перш за ўсё, — інфармуе мяне гаспадар, — разлічваю на жывёлагадоўлю. Кожны год прадаю дзяржаве 2—3 ялоўкі і штук шэсць свіней. За малако бяру ў год да 20 тысяч. Крыху грошай даходзіць яшчэ за трускалкі. Вось і ўсё. Работы хапае, хаця і сыны мае засталіся дома ды памагаюць у гаспадарцы.

Да нашай гутаркі прыслухоўваецца з-за плоту Мікалай Філіпюк. Іду да яго.

— Ад маленства давялося мне шукаць па свеце шчасця, — сцвярджае ён. — Было мне сем год, калі казакі пагналі нашу сям'ю ў бежанства. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, прабаваў зачапіцца ў Беластоку. Не ўдалося. Дык абсталяваўся на бацькоўскай гаспадарцы і, каб неяк звязаць канец з канцом, хадзіў па вёсках, будаваў хлявы і хаты. У адных толькі Паўлах з-пад маёй рукі выйшла каля дваццаці дамоў.

— А як вы цяпер жывеце?

— Што ж, сыны ўцяклі з гаспадаркі. Адзін сяржантам у войску, другі — у заблудаўскай малачарні. Шукаюць свайго шчасця. Хіба бацькоўскае гэта ў іх. Дык цяжкавата мне, хаця бяды няма. Машынамі выручаемся.

Ён таксама, як яго брат, перш за ўсё займаецца жывёлагадоўляй. Шэсць свіней, дзве ялоўкі, адно жарабя, каля паўгектара трускалак, дваццаць у сярэднім літраў малака ў дзень — вось асноўныя крыніцы яго даходу.

Аркадзь Мароз прадстаўляе сваёй асобай новы тып жыхара вёскі — селяніна-інтэлігента. Ён дапамагае бацьку апрацоўваць уласную гаспадарку і аднaчасова з'яўляецца дыспетчарам паўлаўскай міжгурткоўскай машына-трактарнай базы. Жонка яго — настаўніца па прафесіі. Гэта яшчэ болей падкрэслівае яго «іншасць» у супастаўленні з традыцыйным вобразам селяніна.

Ян Аляксеюк — чалавек дробненькі, з загарэлым тварам, з разумнымі вачыма. Сваю шчаслівую карту ўбачыў ён пад шклом цяпліц, дзе ўжо ў маі зацвілі памідоры. Многа гэтага дабра ў яго. Амаль цэлы агарод пад празрыстым дахам.

— Агароднiна, асабліва цяплічная, патрабуе вельмі многа працы. Дык я стараюся ўсё што цяжэйшае механізаваць.

І сапраўды, па яго панадворку крыжуецца блытаніна электраправодаў. Электрычнасць у разважлівых руках становіцца дабрадзействам і прыяцелем гаспадара.

Суседзі, чацвёра іх толькі. Аднак здаецца, што і 130 іншых гаспадароў у Паўлах жыве падобна. Ды не толькі ў Паўлах.

*Віктар Рудчык*
*фота аўтара*



Ян Аляксеюк шукае свайго шчасця пад шклом цяпліц.



Васіль Філіпюк, гаспадар з Паўлаў, разам са сваёй сям'ёй жыве ў цаглянай мураванцы.



Хата Мікалая Філіпюка прыцягвае сваёй прыгажосцю.



Гэта матарызаванае каралеўства Аркадзя Мароза — паўлаўскі МБМ.

# Ці будзе ў КРЫНКАХ?

Ад часу да часу пачынаецца гаворка пра Крынкі, у павеце шырэй, у ваяводстве менш. А ўсё ж слухі ходзяць і дайшлі таксама да нас. Бо Крынкі — гэта такое мястэчка на Сакольшчыне, якое мае свае розныя традыцыі і цяпер лічыцца. Напэўна магло б лічыцца больш, ды гэта ўжо ў многім залежыць ад іх саміх. Так у нас цяпер добра павялося, што будуць з табой лічыцца, калі працай заслужыш на тое. Яны там у Крынках узяліся за вялікую працу: будуюць купальны басейн. Гэта патрабуе многа грамадскага чыну і чын ёсць, але галасна гаворыцца ў Крынках, што ўдзел, асабліва моладзі, мог бы быць большы. І што моладзь іхняя не занадта да грамадскага чыну прыкладаецца.

Сакратар прэзідыума ГРН Мікалай Пуцілоўскі паказваў планы вялікага спартыўнага комплексу, які запланаваны ў Крынках. Басейн — толькі першы этап гэтай будовы. Як хутка і як спраўна будзе ісці ўся будова, залежыць ад мясцовага крынкаўскага чыну, ад агульналюдскай іхняй мабілізацыі.

Так яно бывае, што адна ініцыятыва родзіць другую. За басейнам, недзе вясной нарадзілася ў Крынках думка, каб адрадзіць багатыя традыцыі культурнай працы ў Крынках. Крынкі вядомы былі з гэтай працы яшчэ ў міжваенны «санацыйны» час. Пасля вайны былі вядомы з хораў і спеву. Калі ў Крынках у бягучым годзе хор будзе арганізаваны, будзе гэта трэці хор у пасляваеннай гісторыі мястэчка. Першы паўстаў у 1947 годзе, яшчэ на руінах і зглішчах. Ды быў гэта крынкаўскі хор найбольш баявы. Усевалад Анісімовіч, папулярна званы і вядомы як «Дзядзя Валодзя», хіба разы са тры хваліўся, што той іхні першы пасляваенны хор заняў першае месца ў ваяводстве, а трэцяе ў краіне ў нейкім конкурсе хораў. «Трэцяе ў краіне!» — паўтараў.

Другі хор працаваў у Крынках у гадах 1959—1961.

А цяпер ідзе бой за трэці хор для Крынак. Ёсць людзі, ёсць і песні. Жывуць удзельнікі папярэдніх хораў, ёсць многа здольных новых людзей. Не надта толькі ёсць аднадумная ахвота, каб распачаць гэтую справу.

Гаварылі мне, што вялікім прыхільнікам справы хору ў Крынках з'яўляецца старшыня грамадскай рады Яўгень Апунік. На жаль, не застала яго на месцы. Тады ў сакратарскім пакоі сядзелі мы без старшыні і дзядзя Валодзя ўсімі колерамі маляваў слушнасць і патрэбу хору ў Крынках. Зрабілі яны сход, чакалі, што ахвотных прыйдзе найменш 20 («на пачатку хочам невялікі хор у 20 асоб»), а прыйшло толькі 10 асоб. Замала! Каб гарбарня хацела прыхіліцца да гэтай справы, памагчы. У іх людзі, у іх грошы ёсць! На ГС, на МБМ разлічваюць («база кулкова мае 1 мільён зыску»).

Не выйшла з хорам у першым паўгоддзі. Але «ідэя ў нас не прапала, увосень яшчэ раз папрабуем».

Крынкаўскі дзядзя Валодзя ўжо на пенсіі, але «мае чалавек арганізацыйную жылку» і сядзець яму не хочацца. Ён камендант мясцовай пажарнай каманды. А ўвогуле ўжо 51 год «працуе ў стражы». Атрымаў найвышэйшую ў гэтай галіне адзнаку — залатую медаль галоўнай каманды пажарных стражаў.

Крынкаўская пажарная каманда мае свой духавы аркестр, 12 асоб, але ўсё старэйшыя. Найстарэйшаму аркестранту 65 год, ды іграе ў ёй і наймалодшы — сакратар ГРН.

«Малы наш аркестр, — гавораць, — але свой, на 1-га мая не трэба склікаць здалёк, а свой іграе да маршу».

У гэтым годзе пачнуць ужо будаваць уласную рамізу. Па гэтай справе дзядзька Валодзя асабіста ездзіў аж у галоўную камэнду ў Варшаву. «Маем ужо форсу», — гаворыць.

Ёсць у Крынках прыемны чысты клуб «Руху». Гаспадаром яго з'яўляецца Валя Юрылік. Адзіным гаспадаром. Быў калісь у клубе яшчэ штатны арганізатар культурнага жыцця, але парадку тады было менш. Гэтак гавораць у Крынках. Валя дасканала вядзе парадак і працу сама.

Нашы крынкаўскія мілыя гаспадары хацелі пачаставаць іхняй добрай кавай, але ў клубе быў якраз «рэманэнт». Павялі тады нас на аранжаду ў гасподу. А тут, о людзі мілыя! Тарговы дзень, і гаспода набіта, як бочка селядцамі. Старгаваныя грошы плывуць тут гарэлкай. Куды ні глянь — мужыкі! Адна з трох жанчын у гасподзе — гэта буфетчыца. Адна буфетчыца на ўсю гасподу ў такі дзень, на столькі народу! Ясна, што пра парадак і чысціню ў такіх умовах няма што гаварыць. А ўсё ж, выходзячы, падумалася, што трэба было заглянуць у крынкаўскую гасподу, хоць уражанне выносіла непрыемнае.

Дзядзя Валодзя шкадаваў, што не ўдалося пачаставаць кавай, ды ўмовіліся сустрэцца яшчэ ўвосень, калі яны зноў вернуцца да сваёй ідэі хору, да ідэі, якую горача падтрымліваем.

*Вера Леўчук*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

*Я. Іваноў*

## ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ

Мы сядзелі ў скверы. У зялёнай альтанцы.

Спачатку звінелі шклянкі і бутэлькі... Помню, доўга звінелі, пакуль адна з іх не перакулілася і з яе не пацяклі апошнія кроплі... З таго, відаць, моманту ўсё і пачалося! Як мне здалося, нешта моцна грымнула, стол, за якім мы сядзелі, завагаўся, нахіліўся і абодва мае прыяцелі, бездапаможна хапаючыся рукамі за паветра, з'ехалі з лавак на зямлю... Але я — утрымаўся, бо інстынктоўна абхапіў дрэва. Вось тады і адчуў, як ходарам захадзіла пада мной зямля, як завіхурыла ў вачах. Вакол рабілася нешта страшэнна незвычайнае. Я зірнуў на тое месца, дзе яшчэ гадзіну назад віселі электрычныя ліхтары, але ў густым змроку бушавала толькі адно полымя. Яно гарэла так ярка і зласесна, а чырвоныя твары маіх прыяцеляў пазіралі ў неба з такой пакутлівасцю, што страшэнная здагадка заварушылася ва мне: я раптам прыгадаў апошні дзень Пампеі... З дзікім лямантам кінуўся са сквера на вуліцу: «Ратуйце-е-е!» І ўсё шалёна панеслася за мной і насустрач мне: будынкі, людзі, машыны... Імгненнае маланкавае святло і страшэнны ўдар былі апошнім, што я адчуў.

...Апрытомнеў у бальніцы. Нада мной стаяў доктар. Нягледзячы на востры боль ва ўсім целе, я сабраў сілы і ціхім шэптам спытаў:

— Усё... ужо скончылася?

— Бадай...

— А што ж гэта было?

— Моцная ступень ап'янення...

— І больш... нічога? — не паверыў я.

— Не, чаму ж... Вы ледзьве не загінулі пад машынай.

## НІЎКА

*Кемлівыя балельшчыкі.*

*Рыгор Яўсееў*

## ДЫЯЛОГ

— Рыгорка, любы,  
Як жывеш?  
— Як-небудзь ды жыву.  
— Чаму ж на працу  
Не ідзеш?  
— Ды муціць галаву.  
— Ты прастудзіўся,  
Дружа, мо?  
— Зарплату атрымаў.  
— То крочыў  
Лепей бы дамоў.  
— Капеечкі ж няма...  
А жонка дзе?  
А дзеці як?  
— Пакінуў іх даўно.  
— Дык ты нягоднік,  
Ты ж лайдак!  
— А мне — ўсё адно...

## АВАДЗЕНЬ

Вельмі ўжо быў надакучлівы Авадзень. З самага ранку, як толькі прыгрэе сонца, ён пачынаў сваё «зу-зу-зу». Надакучаў ён людзям, але іх баяўся.

Тады рашыў Авадзень кароў палохаць: у іх няма рук, а рогі яго не палохалі — ён жа Авадзень, а не Воўк. Ён, Авадзень, лятае, а Воўк бегае. Ён, Авадзень, малы, а Воўк вялікі. Так што рогі яго не палохалі.

Прыляціць у поўдзень Авадзень да кароў і над самым вухам пачынае зузукаць. Карова круціць галавой, махае рагамі, а ён пагражае: «Зу-зу-зу! Вось зараз укушу». І кусаўся вельмі балюча. Баяліся Авадня каровы. Толькі загудзе, адразу дамоў уцякалі.

Авадзень ляціць услед і смяецца: «Зу-зу-зу! Зу-зу-зу!» Аднойчы рашыў ён пакатацца на карове. Праззукаў над вухам, а потым сеў ён на спіну, а карова стук яго хвастом. І забіла.

Цяпер усе Авадні вельмі баяцца ў каровы не рог, а хваста.

*Яўген Крупенька.*



*Хто наступны???*

## Галаваломка

Знайдзіце самы кароткі шлях, які вядзе да цэнтра лабірынта.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 30 шасціву-гольнікаў.*

### СКАРЫСТАЎ З НАГОДЫ

Жыхары адной маленькай вёсачкі ў Шатландыі вырашылі ў мэтах зніжэння выдаткаў на пахаванне арганізаваць уласнае пахавальнае бюро. На арганізацыйным сходзе была прынята пастанова, што пасля адкрыцця пахавальнага бюро першы нябожчык будзе пахаваны бясплатна. Як толькі ўсе аднагалосна прагаласавалі за гэту пастанову раздаўся выстрал: нехта паспяшаўся застрэліцца.

### ХАЦЕЎ ДАВЕДАЦЦА

— Мама, мяне суседаў дзядуля зараз ні за што вуха намяў.

— Як гэта ні за што?

— Ды я хацеў толькі даведацца, чые яблыкі смачнейшыя: іхнія ці нашы...

### СУСЕДЗІ

Ноччу ў кватэру, з якой даносяцца гукі музыкі і тупат ног, звоніць сусед.

— Выбачайце, вы не пазычыце мне ваш патэфон?

— О, вы таксама збіраецеся патанцаваць?

— Не, я збіраюся паспаць.

### УСЁ У ПАРАДКУ

— Усё маё багацце — гэта мая галава.

— Не сумуй, мой дружа, беднасць не загана!..

### У СУДЗЕ

Адзін чалавек, абвінавачаны ў крадзяжы, стаў перад суддзёй, які славіўся сваёй дабратой.

— Вас калі-небудзь раней прыгаварвалі да турэмнага зняволення? — мякка спытаў суддзя.

— Ніколі! — ускліκнуў падсудны і заплакаў.

— Ну, ну, не плачце, мой дарагі, — пацешыў яго суддзя. — Зараз мы гэта выправім.

*— А я перайшоў на фотапаляванне.*

### КОЛЬКІ ГОД

Дзве жанчыны ўважліва разглядаюць торт, падрыхтаваны гаспадыняй дома на яе дзень нараджэння:

— Што такое? У торце толькі дваццаць пяць свечак.

— Відаць, яна запаліць іх з двух канцоў.

### СПОСАБ

У час агляду пацыентка абрушвае на доктара паток скаргаў на ўсялякія недамаганні. Доктар заканчвае агляд і гаворыць:

— Прашу паказаць язык і трымаць яго высунутым, пакуль не выпішу рэцэпт.

### ХВАЛЬКО

У адной бяседзе Бернарду Шоу давялося сядзець побач з маладым, малавядомым, але ганарыстым літаратарам, які ўвесь час выхваляўся сваімі ўяўнымі літаратурнымі поспехамі. Сваёй балбатнёй малады хвалько не абмінуў і Бернарда Шоу. «Ведаеце, — звярнуўся гэты літаратар да пісьменніка, — калі мне было дваццаць гадоў, урач забараніў мне курыць. Ён папярэдзіў, што нікацін будзе адмоўна дзейнічаць на мой мозг...»

«Шкада, што вы не паслухалі ягонай парады», — перапыніў Шоу маладога хвалько.

*— А ку-ку! Хто гэта?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Любы Зубік з Сакаў Гайнаўскага павету і В. Буры з Гайнаўкі змяшчаем песню:

## PŁONĄ GÓRY, PŁONĄ LASY

**słowa: Janusz Kondratowicz**  
**muzyka: Seweryn Krajewski**

1.

Płoną góry, płoną lasy,  
w przedwieczornej mgle,  
stromym zboczem dnia  
słońce toczy się.  
Płoną góry, płoną lasy,  
lecz nie dla mnie już.  
Brak mi listów twych,  
ciepła twoich słów.

Rzuć między nas  
najszerszą z rzek,  
najgłębszy nurt,  
najdalszy brzeg.  
Rzuć między nas  
to, co w nas złe,  
a ja i tak odnajdę cię.

2.

Płoną góry, płoną lasy,  
nim je zgasi zmierzch,  
znowu minie noc,  
znowu minie dzień.  
Płoną góry, płoną lasy,  
lecz nie dla mnie już,  
brak mi zwierzeń twych,  
ciszy twego snu.

Rzuć między nas  
najdłuższy rok,  
najskrytszy żal,  
najgłupszy błąd.  
Rzuć między nas  
to, co w nas złe,  
a ja i tak odnajdę cię.

*— Выбачайце, а дзе мяч?*

## Курёзы

### А КАНЮ ДАНТЫСТ НЕ СТРАШНЫ

Англійскі ветэрынар-стаматолаг (ёсць і такія!) Джордж Хамбл лічыць, што коні, у адрозненне ад людзей, не баяцца зубных урачоў. За чатыры дзесяткі гадоў сваёй практыкі Хамбл ніколі не даваў сваім пацыентам абязбольваючых сродкаў, выдаляючы хворыя зубы. Дастаткова некалькі ласкавых слоў, каб конь, калі яму выдаляюць зуб, стаяў зусім спакойна.

### ЛЮБІМЫ ЗАНЯТАК

Больш як сем тысяч аўтографаў славутых пісьменнікаў і мастакоў, акцёраў і музыкантаў, дзяржаўных дзеячоў і людзей вельмі рэдкіх прафесій захоўваецца ў калекцыі, якую дзесяткі гадоў збірае пражская артыстка Антонія Страхава. На картках, уклееных у альбомы, можна ўбачыць подпісы прэзідэнта ЧССР Л. Свабады і першага ў свеце касманаўта Юрыя Гагарына, Энрыка Карузы і Пабло Пікасо, Чарлі Чапліна і Арама Хачатурана, Луі Арагона і Агаты Крысці. Усе аўтографы ва ўнікальнай калекцыі не толькі сістэматызаваны, але і забяспечаны біяграфічнымі данымі, фатаграфіямі.

### ВЕРХ ВЕТЛІВАСЦІ

«Тыдзень ветлівасці» ў амерыканскім горадзе Джэрсі-Сіці прайшоў з поўным поспехам. У рэстаранах і кінатэатрах, на вуліцах і ў аўтобусах людзі літаральна рассыпаліся ў кампліментах, наперабой выказвалі жаданне чым-небудзь дагадзіць адзін аднаму і г.д. У апошні дзень журы пачало размяркоўваць прэміі. Пачаліся спрэчкі, затым разгарэліся сваркі, пасыпаліся знявагі, у галовы паляцелі крэслы, і, нарэшце, члены журы і прысутныя на гэтай дыскусіі кінуліся адзін на аднаго з кулакамі. У выніку 14 параненых былі адпраўлены ў бальніцу. Прэміі засталіся непрысуджанымі.

## Смейся з намі

*Каб чытаць чужыя думкі, трэба мець свае.*